Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 14 (68) Серада 25-га Сакавіка 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар.— 5 гр.

## Камітэт для ўсходніх ваяводзтваў.

У рэзультаце падачы віцэ-прэм'ерам Польскага Ураду п. Тутутам прашэньня аб адстаўцы, якое па апошніх вестках узята ім назад, компэтэнцыя п. Тугута, як міністра без портфэля ускладзе ўраду, мае быць болей выразна акрэсьленай, чымся гэта было дасюль.

Усім вядома, што мэтаю ўваходу п. Тугута ў склад ураду было, галоўным чынам, аз"араўленьне жыцьця ўсходніх ваяводзтваў Польскае Рэспублікі, заселеных абсолютнаю большасьцю беларускага і украінскага насяленьня.

Але ўсе натугі п. віцэ-прэм'ера ў працягу пары месяцаў яго ўрадаваньня ледзь-ледзь скранулі справу з месца. Азнакаў глыбокага аздараўленьня ўсё яшчэ прыходзіцца чакаць.

І гэта дзеля таго, што выразна акрэсьленай праграмы ў адносінах да беларускага і украінскага пытаньня Польскі Урад ня меў, як да ўваходу ў яго склад п. Тугута, так і пасьля гэтага ўваходу. Праўдзівей кажучы, калі якая праграма п. Тугутам і нарысоўвалася, дык рэалізацыя яе йшла падаўнейшаму туга.

Возьмем для прыкладу скандальна пярэчыўшае закону аб праве карыстацца роднаю моваю ў зносінах з адміністрацыйнымі установамі міністэрскае выканаўчае распараджаньне, зьмены якога дабіўся п. Тугут. Ці яшчэ болей дробную справу даадукаваньня беларускага настаўніцтва — справу настаўніцкіх курсаў, застыўшую недзе ў канцэлярыях.

Ці-ж сапраўды справа пушчэньня ў рух настаўніцкіх курсаў на вельмі абмяжованы лік слухачоў зьяўляецца настолькі важнаю па сваім маштабе дзяржаўнага значэньня, што яе гэтак доўга трэба рашаць?

Тымчасам справа з курсамі недзе паціху тлее, робіцца так, як мокрае гарыць, а сярод беларускага насяленьня й настаўніцтва пушчаецца беларускімі палітыкамі цераз паўофіцыёзны орган Беларускага Пасольскага Клюбу прывычная гнюсная дэмагогія быццам курсы гэта нішто іншае, як... „баламуцтва".

Годзі ўжо, здаецца, цягнуць з раз вырашанаю справаю, пара адчыніць для настаўнікаў курсы і гэтым палажыць канец усякай дэмагогіі вакол гэтае справы.

Калі створыцца Камітэт для крэсовых справаў, дык можна спадзявацца, што справы гэтыя ня будуць выглядаць гэтак дзіўна, як дасюль, бо фактычна ў руках п. віцэ-прэм'ера акажацца „портфэль" гэтых справаў, установіцца як-бы новае міністэрства для ўсходніх земляў.

Па шчырасьці, яго гэтак і трэ' было-б назваць, каб раз назаўсёды прызнаць агульнавядомы своеасаблівы характарны уклад нашага краёвага жыцьця. Ніхто-ж ня можа запярэчыць відочнай праўдзе, што тое ці іншае ўсходняе ваяводзтва моцна розьніцца ад таго ці іншага ваяводзтва быўш. Конгрэсоўкі. Розьніца пацыянальная, якая істнуе і вечна істнаваць будзе, няшкоднаю стане ў агульнадзяржаўным жыцьці тады, калі на ўсходзе Польшчы установіцца тая нармальная законнасьць і пашана права, якая зьяўляецца галоўнай асновай моцы і дабрабыту Рэспублікі.

У гэтым сэнсе на маючым паўстаць Камітэце для ўсходніх ваяводзтваў ляжыць вялікая задача правядзеньня насьпеўшых рэформаў у мясцовым жыцьці, запушчаным і пагоршаным памылкамі мінулых гадоў урадаваньня.

Камітэт для нашых тутэйшых, ня вельмі простых, справаў павінен нарэшце выпрацаваць нейкую конкрэтную праграму свае дзейнасьці і надаць гэтай праграме пэўны рэальны бег бяз лішняга шкадлівага канцэлярскага фармалізму і міжміністэрыяльных непаразуменьняў.

Калі-ж рэалізацыю жыцьцёвае, выразна акрэсьленае, праграмы Камітэт гэты павядзе бяз ніякага тормазу з боку бюракратычнай валакіты, дык рэзультаты аздараўленьня нашых тутэйшых ненармальнасьцяў стануць відочнымі для кожнага і зьявіцца магчымасьць надзеі на лепшае ў самых шырокіх беларускіх масах.

*Памятайце аб дарагоўлі друку, а дзеля гэтага не шкадуйце грошай на падпіску, каб ня была спынена вам высылка „Грамадзкага Голасу"!*

## Палітычны агляд.

Пытаньне аб захаваньні істнуючых граніц, устаноўленых Вэрсальскім трактатам, усё яшчэ зьяўляецца галоўнай тэмай гутаркі дыплёматаў і прэсы заходня-эўропэйскіх дзяржаваў. Жэнэўскі пратакол, аб якім гэтак шмат гаварылі і пісалі, зусім ужо пахаваны. А аднак нямецкі проект заснаваць саюз 5-ёх дзяржаваў з мэтай абясьпечыць француска-нямецкія граніцы, усё яшчэ зьяўляецца тэмай гутаркі між Бэрлінам, Парыжам і Лёнданам. Пасьля таго, як зачынілася сэсія Рады Лігі Народаў, на якой апрача пытаньня аб жэнэўскім пратаколе разглядалася яшчэ польска-нямецкая спрэчка і інш., ангельскі мін. загр. спр. Чэмбэрлен, польскі міністар загран. справаў Скшынскі і чэшскі міністар Бэнэш паехалі ў Парыж, дзе адбыўся рад паседжаньняў гэтых міністраў з францускім прэм'ерам Эрыё. Тут трэба аддаць справядлівасьць, што польскі міністар заграніўных справаў разьвярнуў энэргічную дзеяльнасьць і адтрымаў вялікую дыплёматычную перамогу. Ен у нарадах з францускімі дзяржаўнымі дзеячамі, а таксама і ў заявах, зробленых францускай прэсе, вельмі цікавіўшайся гэтай справай, выступіў проці нямецкіх хітрыкаў, меўшых на мэце перацягнуць на свой бок Англію, Францыю, Бэльгію і Італію, каб апошнія далі ёй свабоду дзеяньня на ўсходзе, а асабліва ў адносінах да Польшчы. Міністар Скшынскі бараніў той пагляд, што заходнія польскія граніцы устаноўлены Вэрсальскім трактатам і дзеля гэтага маюць гэткую самую моц, як і францускія, калі істнуе Вэрсальскі трактат, які ня можа быць нарушаны нямецкай прагавітасьцю. Дзеля гэтага польскі міністар не дапускае ніякае навет гутаркі аб пытаньні датычна перамены польскіх граніц, хаця-б навет і шляхам мірных перагавораў з Нямеччынай. Гэты пагляд зусім падтрымоўваў францускі ўрад і прэса, а таксама й чэшскі міністар заграніўных справаў. Наагул трэба ад'значыць тое, што ў гэты раз Бэнэш, які карыстаецца вялікай популярнасьцю сярод заходня-эўропэйскіх дзяржаваў, падтрымоўваў польскага міністра Скшынскага.

Пасьля гэткага прыёму ў Парыжы нямецкіх прапазыцыяў нямецкі ўрад не спадзяецца ўдачы свайго пляну, ня гледзячы на тое, што ён карыстаецца поўным падтрыманьнем з боку ангельскага ўраду і ангельскай лібэральнай прэсы. Дзеля гэтага нямецкі ўрад пачаў у Лёндане новыя крокі, каб узяць гэты проект назад. З гэтай прычыны ў апошні час вядуцца перагаворы Лёндану з Парыжам і францускі пасол у Лёндане, параіўшыся з Чэмбэрленам, паехаў у Парыж, а Эрыё вядзе перагаворы з ангельскім паслом у Парыжы. Зусім магчыма, што Нямеччына, добра пазнаёміўшыся з паглядамі на гэту справу Англіі, Францыі, Італіі, Бэльгіі, Польшчы і Чэхаславакіі, вазьме назад свой проект, каб зрабіць у ім адпаведныя папраўкі, або, пераканаўшыся, што ня здолее правясьці яго ў жыцьцё, аканчальна зьніме яго з парадку дня. Справа ў тым, што ў самой Нямеччыне няма аднолькавага пагляду на гэтае пытаньне. Нямецкія нацыянальмонархістыя нездаволены навет гэтым проектам, які дамагаецца толькі зьмены заходніх польскіх граніц. Яны навет ня хочуць гарантаваць непарушнасьці францускае граніцы і адмовіцца ад Эльзасу і Лётарынгіі. Зусім магчыма, што нямецкі ўрад думае ўзяць назад свой проект пад націскам з боку пацыяналістых, на якіх цяпер апіраецца кабінэт Лютэра. Але нездаволеньне францускай граніцай высказваюць толькія крайнія правыя элемэнты, ў той час як зьмены польскай граніцы дамагаюцца і аб гэтым адкрыта кажуць усе нямецкія партыі ажно да соцыяль-дэмакратаў. 29 сакавіка, як вядома, будуць у Нямеччы-

не выбары новага прэзыдэнта нямецкай рэспублікі на месца памёршага Эбэрта. Усе партыі выставілі сваіх кандыдатаў. Правыя партыі вызначылі колькі кандыдатаў.

Але найбольш шансаў мае быўшы міністар Ярэс. Ён езьдзіць па гарадох Нямеччыны і гаворыць праграмныя прадвыбарныя прамовы, у якіх адкрыта дамагаецца зьмены польскай граніцы. Гэткім чынам, лёс нямецкага проекту ў значнай меры залежыць ад рэзультатаў выбараў нямецкага прэзыдэнта. Рэзультат гэтых выбараў аканчальна пакажа, у чыіх руках знаходзіцца ўлада ў Нямеччыне, ў руках монархістых ці рэспубліканцаў. Цяпер ідзе заўзятая барацьба нямецкіх монархістых з рэспубліканцамі за здабыцьцё апошняй пазыцыі. Кабінэт у Прусіі дагэтуль не ўдалося ўтварыць, дзеля таго, што сілы правых і левых амаль што ня роўныя: левыя або рэспубліканскія партыі маюць большасьць 2 галасоў. Адзіны выхад з утварыўшагася палажэньня—роспуск прускага сойму і назначэньне новых выбараў, якія павінны будуць даць больш выразную большасьць таму ці іншаму палітычнаму кірунку. Але роспуск сойму і новыя выбары ў Прусіі могуць быць не раней, як кончацца выбары прэзыдэнта, паводле рэзультату якіх можна будзе дагадацца і аб рэзультатах выбараў у сойм.

*N.*

---

# „Ці за ці процiў?“

Перада мною ляжыць два нумары падпольнай газэткі камуністычнай партыі Заходняй Беларусі „Большевик“. Нумары гэтыя нам прыслалі проста поштаю ў закрытым канвэрце.

У адным з гэтых нумароў (№ 4) ёсьць артыкул пад назвай: „Ці за, ці процiў“, гдзе між іншым гаворыцца: „Мы пытаемся вас, беларускія паслы, *како веруеши?* Мы ведаем вашыя абмылкі і праступленьні процiў рэвалюцыі, мы ведаем вашыя грахі 1918 і 1919 г.г. Мы ведаем такжа, што ад многіх сваіх памылковасьцяў вы даўно вылечыліся. Мы пільнавалі і пільнуем за тым, як ідзе вашая эволюцыя ўлева, але колькі гадоў трэба, каб вы знайшлі цьвёрды грунт пад нагамі і рашуча парвалі з сваей мінуўшчынай і з сваімі вечнымі хістаньнямі. Заместа таго, каб азначаць ў Сойме рэвалюцыйную волю працоўных масаў Зах. Беларусі, вы пагразьлі у парлямэнцкіх інтрыгах і плётках, час ад часу даючы аб сабе вестку опозыцыйнымі прамовамі, з якіх надта цяжка зрабіць вывад, чаго вы нарэшце жадаеце. Вашая ідэолёгія прыкрая і неясная. Ваша праграма? Яе няма. Ці можа вы яшчэ і цяпер носіцеся з рознымі „аўтаноміямі“? У імя рэвалюцыйных работнікаў і сялян Зах. Беларусі, накрэсьліўшых на сваіх штандарах „Аб'ядналая Б. С. С. Р.“, мы пытаемся у вас: за рэвалюцыю, за Б. С. С. Р. вы, ці процiў? Бо сярэдзіны няма і быць ня можа“.

Натуральна, можа таварышы сябры камуністычнай партыі Зах. Беларусі, маюць большае права ультыматыўна пытацца п.п. бел. паслоў „*Како веруеши*“ і ці за аб'ядналую Б. С. С. Р. яны, ці процiў, але здаецца нам, што і мы маем права таксама запытацца ў п.п. паслоў: дык з кім-жа яны? Ці з „аб'ядналай“ Б. С. С. Р. ці з Польшчай, пасламі якой яны зьяўляюцца? Бо спачатку парлямэнцкай працы п.п. паслом бракавала, з нашага погляду, разумнай тактыкі і пэўнай, акрэсьленай рэальнай праграмы. Яны не патрапілі заняць умяркованую пазыцыю, ўбіліся з сваей праграмай maximum у тупік і ніяк з гэтага тупіка не маглі вылезьці і толькі ўсюды і заўсёды прадстаўлялі хронічную опозыцыю.

Але настаў момэнт калі ў гаспадарственным жыцьці Польшчы наступілі нейкія адпаведныя хвілі. Адвечны вораг Польшчы, пагроза эўропэйскага міру, працягнуў сваю жалезную лапу процiў цэласьці Польшчы. І ў гэты грозны момэнт уся Польшча ў ліку сваіх парлямэнцкіх партыяў паднялася на абарону свае незалежнасьці, бо зусім ясна, што небясьпека з боку нямецкага на межах заходніх магла выклікаць небясьпеку і на межах усходніх з боку яшчэ больш небясьпечнага ворага, як—бальшавікі, а значыць пагроза была ўсёй дзяржаве. Усе партыі ад крайняй лявіцы да крайняй правіцы зложылі свой протэст Маршалку Сойму. Не падпісалі толькі гэтага протэсту: немцы, камуністы, украінцы і беларусы. Што немцы не падпісалі дык зразумела, бо яны даказалі гэтым свой патрыятызм да Faterland'у. Што не падпісалі камуністы і паўкамуністы — украінскія дэпутаты, гэтак сама зразумела, бо камуністы заўсёды процiў гаспадарственнасьці. Ну, а беларусы? Вось тутака я і запытаюся ў нашых паслоў: како веруеши? Ці за ці процiў? І здаецца мне, што запытацца гэтак мы маем ня меншае права, чымся сябры камуніст. партыі Зах. Беларусі. Зразумела што пытаньне гэтае мы ставім у іншай плашчыні, бо сябры кам. партыі Зах. Беларусі пытаюцца ў п.п. паслоў, як грамадзяне Б. С. С. Р., а мы робім гэтае пытаньне, як грамадзяне Польскае Рэспублікі. Маем права спытацца гэтага яшчэ і таму, што ідзе вясна, калі трэба было-б наагул быць шчырым... Маем права спытацца, нарэшце, і таму, што паўафіцыёз пасольскага клюбу пахабная „*Бел. Доля*“ ня толькі ў нашай палітычнай працы, але і ў працы нацыянальна-культурнай, як справа беларускага школьніцтва, знаходзіць толькі адны бруды, ўліваючы атруту няверы да нашае чыста-культурнае працы.

І гэта робіць паўофіцыёз пасольскага клюбу так крытычна, ўжываючы самыя брудныя і агідныя спосабы, адносячыся наагул варожа да акцыі і працы Часовае Беларускае Рады. Падлічым-жа, нарэшце усе здабыткі Бел. Пас. Клюбу за $2^1/_2$ гады соймавай і лёкальнай працы. Ці адкрыты пачатковыя школы, ці заложана хоць-бы адна гімназія, або сэмінарыя. А ў працы парлямэнтарнай? ці зложаны хоць-бы адзін законапроект аб гэткіх важных галінах нашага жыцьця, як народная прасьвета, самаўрад, аграрная рэформа? Ніводнага законапроекту, ніводнага навет рэфэрату за $2^1/_2$ гады не падалі нашыя „здольныя“ паслы. Праўда былі мітынгі на „Крэсах“, ды бесканечны лік інтэрпэляцыяў. Але якая карысьць? За дэмагогічныя, часта антыдзяржаўныя мітынгі бедных сялян пасьля грэлі мясцовыя пастарункі і войты (а самі-ж паслы „nietykalne“), а ўсе інтэрпэляцыі праз 2—3 дні перадрукоўваліся вялікімі літарамі бальшавіцкай заграпічнай прэсай пад агітацыйнымі загалоўкамі, напрыклад: „Зьдзекі Панскай Польшчы“ і г. д. Здаецца мне, што калі я назаву ў сэнсе палітычнай працы нашых п. п. паслоў поўнымі палітычнымі імпотэнтамі — гэтае азначэньне будзе зусім точнае. Але ёсьць імпотэнты пасыўныя (яны не шкадлівыя) і ёсьць імпотэнты актыўныя—тыя шкадлівыя. Апошнія шкадлівы тым, што нічога зрабіць самі ня могуць, толькі здольны зруйнаваць, запаскудзіць зробленае ня імі.

І вось паслы ўсіх польскіх партыяў (навет і жыдоўскі клюб) у момэнт небясьпекі для дзяржавы забылі на хвілю свае спрэчкі і, лічачы сябе грамадзянамі, адзіным фронтам запратэставалі процiў нямецкай прагавітасьці. Маўчалі толькі... ворагі Польшчы, бо: „cum tacent-klamant“ „Беларуская Доля“ гэты адзіны орган беларускага пасольскага клюбу даўно ўжо і зусім шчыра і адкрыта вядзе пропаганду за аб'яднаньне з Б.С.С.Р. Але-ж гэтая газэта не адтрымлівае ні пасольскай солідной пэнсіі, ня езьдзіць бясплатна ў 1-ай клясе і навет даволі часта бывае „тыкальнай“. Яна („Бел. Доля“) пасьледавальна да канца: адтрымлівае грошы з лапаў чырвонага хама і зусім шчыра і адкрыта вядзе (хамскімі спосабамі) сваю гнюсную працу. Паны-ж бел. паслы ўсе прывілеі, ім прыпадаючыя, прымаюць з прыемнасьцю, аднагалосна, калі не падрываючы асабіста дзяржавы, дык, прынамсі, нічога ня маючы процiў, калі гэтае робяць іншыя.

Мы зусім праконана баронім цэласьць дзяржавы. Мы зусім шчыра становімся на абарону родных зямель прад небясьпекай бальшавіцкай навалы.

Мы змагаемся за належачыя нам па канстытуцыі правы. Змагаемся за родную школу, будзем змагацца (ня ў Сойме, складаючы безсэнсовыя інтэрпэляцыі і протэсты) на нашых землях за самаўрад. Але мы падыходзім да рэалізацыі гэтых патрэб беларускага жыцьця ня шляхам рэвалюцыі, а шляхам паразуменьня з польскім грамадзянствам і падыходзім, нарэшце, да гэтай рэалізацыі дарогай эвалюцыйнай — рэальнай. Але, будучы перад усім беларусамі—з крыві і косьці, і па пракананьням пястуючы сваю нацыянальную ідэолёгію, мы разумеем, што адначасна зьяўляемся грамадзянамі Польскай Рэспублікі. Наша ідэолёгыя чыстая. Наша праграма ясная. Наш шлях просты—гэта шлях рэальнага змаганьня, рэальнай паступовай працы. А цяпер яшчэ раз спытаймася паноў беларускіх паслоў як гэта робяць таварышы сябры камуністычнай партыі Зах. Беларусі: „Ці за ці процiў“. Але, здаецца мне, што гэтае пытаньне трохі спозьненае, бо п. п. паслы ўсім сваім захаваньнем, даўно ўжо сказалі гэтае сваё „процiў“. І я радзіў-бы ім цяперака сказаць таварышом-камуністам: „А ў адносінах да Б. С. С. Р. мы „за“. Дык будьце-ж шчырымі п. п. паслы! Не падводзьце-ж толькі наш няшчасны сялянскі люд пад вялікія небясьпекі. І так ён меў надта шмат гора і сьлёз. Будзьце-ж консэквэнтны да канца і... з першым цёплым вясьняным сонейкам: з Богам у „праўдзівую, „незалежную“ Савецкую Беларусь“!

**А. Паўлюкевіч.**

---

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

---

# Сем гадоў ідэалу.

**(25-III 1918 — 25-III 1925).**

Сучасны лёс беларускага народу ўсім вядомы. Падзелены рыскаю мяжою блізу што на дзьве роўныя палавіны, галоўным чынам, параскіданы па розных дзяржавах сваіх этнографічных суседзяў, наш народ пазбаўлены адналітае цэласьці, хаця гэта ня значыць яшчэ, што ён саўсім пазбаўлены жыцьця.

З гістарычнага пункту гледжаньня гэтае здарэньне падзелу этнографічна і тэрыторыяльна цэлага беларускага народу зьяўлялася няўхільным, дзякуючы сьмяротнаму нашаму нацыянальнаму заняпаду ў перадрэвалюцыйны час расейскага панаваньня, сьціраўшага з беларускага народу яго прыроднае нацыянальнае імя.

Выйшаўшы з векавое маскоўскае няволі, з вастрогу народаў, якім была нябожчыца Расейская Імпэрыя, беларускі народ ня мог адразу падняцца вышэй сваіх магчымасьцяў. Заняпаўшы ў сваей нацыянальнай культуры на працягу сталецьцяў, беларус ня мог асягнуць найвышэйшага свайго ідэалу— поўнага нацыянальнага самаазначэньня.

Вось чаму акт абвешчаньня Беларусі незалежнаю народнаю рэспублікаю 25 сакавіка 1918 году ня меў у сваёй лёгічнай пасьледавальнасьці поўнага практычнага значэньня, а зьявіўся цераз 9 з лішкаю месяцаў для бальшавікоў падставаю іх дыплёматычных экспэрымэнтаў.

Незалежным дзяржаўным жыцьцём кожвы народ пачынае жыць толькі з таго момэнту, калі сярод яго насьпелі ўсе патрэбныя для гэтага жыцьця прадпасылкі або калі народ адтрымае магутны штырх да самастойнага жыцьця звонку.

Навет нацыянальна больш за нас сьвядомыя народы, як грузіны ці украінцы, пазбавіліся моцна абрысованага самастойнага дзяржаўнага існаваньня, ня будучы падтрыманымі нікім звонку, і праз гэта былі заліты бальшавіцкаю навалаю, як і ўсходняя часьць Беларусі.

Хто ведае, што сталася-б з маленечкімі прыбалтыцкімі дзяржавамі — Эстоніяй, Латвіяй, Літвою, — калі-б яны ня мелі магутнага апірышча ў прызнаўшых іхнюю незалежнасьць вялікіх эўропэйскіх дзяржавах? То-ж Латвія праз кароткі час ужо таксама была «совет-скою», а тэрыторыяй яе дэмакратычнага ўраду Ульманіса нейкі час было нішто іншае, як ...ангельскі карабель. Тымчасам ніхто не заперэчыць поўнай нацыянальнай сьвядомасьці гэтых «маленечкіх» народаў, захаваўшайся ў іх, быць можа, дзякуючы рэзкай адасобленасьці іх ад маскалёў падчас царызму толькі таму, што народы гэта — не-славянскія, як народ наш — беларускі.

Аднае, хоць і вельмі моцнае, нацыянальнае сьвядомасьці для самастойнага жыцьця народу яшчэ мала, бо нельга думаць, што даўнейшая, напрыклад, Польшча, была дзіка парэзана магутнымі суседзямі, дзякуючы атсутнасьці ў масах пачуцьця нацыянальнага момэнту. Гэтае пачуцьцё ў польскім народзе, як падчас незалежнага быту, так і падчас маскоўска-нямецка-аўстрыяцкай няволі заўсёды існавала і хоць можа і слабела крыху, але фактычна ніколі не перарывалася. І ў адпаведны момэнт, парэзаная сілаю на кавалкі, Польшча ўваскросла да свайго незалежнага быту ў новай форме, хаця не бяз пэўнага вонкавага падтрыманьня ў постаці адразу санкцыянаваўшых яе ўваскрасеньне вялікіх дзяржаваў, падпісаўшых трактат з ёю ў Вэрсалі.

Рашучы акт 25 сакавіка 1918 году заўсёды будзе гістарычным момэнтам у жыцьці беларусаў, як-бы ні складаўся іх жыцьцёвы шлях. У сучасны момэнт яго зьмест зьяўляецца ідэалам, які асягнены толькі на паперы бальшавіцкіх дэкрэтаў у форме гэтак званай «Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі Бела-

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

У гутарцы з супрацоўнікам газэты „Robotnik“ п. Міністар Тугут, паміж іншым, заявіў, што Камітэт для крэсовых справаў зьяўляецца проектам старшыні міністраў п. Грабскага, які аканчальна пагадзіў сваю пазыцыю з п. Тугутам на конфэрэнцыі ў мінулую суботу. На пытаньне, калі гэтая справа аканчальна будзе вырашана, п. Тугут адказаў, што ён чакае толькі да серады (сёньняшні дзень), інакай калі рада міністраў справы стварэньня Камітэту ня вырашыць, дык проект гэты трэба лічыць адкіненым. „Robotnik“ зазначае, што варожа адносяцца да стварэньня крэсовага камітэту п. п. Ратайскі і Смольскі (міністар і віцэ-міністар унутраных справаў) і што ў выпадку іхняе ўпартасьці стане магчымым урадовы крызыс.

Як пішуць польскія газэты, Багінскі і Вечаркевіч, засуджаныя ў свой час на кару сьмерці, якая заменена была для іх п. Прэзыдэнтам Рэспублікі на бязсрочны вастрог, будуць выданы бальшавіком у абмен на палякоў, якіх бальшавікі трымаюць у вастрогах. Вечаркевіч і Багінскі былі асуджаны польскім судом, як тэрорыстыя, працаваўшыя на карысьць саветаў.

У Перамышлі судом разглядаецца пры зачыненых дзьвярох справа пасла Ланцуцкага (камуністага), абвінавачанага судовымі ўладамі і выданага Соймам за прамову, сказаную на сходзе 11-га лістапада 1923 г., ў якой Ланцуцкі як быццам заклікаў сабраных да зваленьня істнуючага дзяржаўнага ладу.

Міністэрства ўнутраных справаў апрацавала статут валасных вясковых пазычкова-ашчадных касаў. Статут гэты, які мае быць у працягу найбліжэйшых дзён афіцыяльна апублікованы, спэцыяльна датычыць волосьцяў на абшары быўшага расейскага забору, дзе дасюль яшчэ істнуюць падобныя касы на аснове расейскага законадаўства і зьяўляюцца блага датарнованымі да цяперашніх варункаў.

## За граніцай.

Расейская эміграноцкая часопісь „Русская Газета“ паведамляе, што ў савецкім пасольстве ў **Парыжы** ўкрадзены тайныя дакумэнты і цыркуляры III Інтэрнацыяналу, якія датычаць камуністычнае пропаганды за граніцаў.

**Бэрлінская** газэта „Täglische Rundschau“ піша, што бальшавікі концэнтруюць паважныя сілы на граніцы **Бэсарабіі.** Украінскім сялян загадана збудаваць некалькі лініяў акопаў.

Паводлуг вестак з **Каіру**, Заглюль-Паша 125 галасамі проці 85 выбраны маршалкам парлямэнту ў **Эгіпце.** З гэтае прычыны ўрад падаўся ў адстаўку, якое кароль ня прыняў, распусьціўшы парлямэнт, праістнаваўшы ўсяго 10 гадзін. Дэкрэт аб роспуску прачытаў у парлямэнце Зівар-Паша, эгіпэцкі прэм'ер-міністар.

З **Жэнэвы (Швэйцарыя)** паведамляюць, што ў канцы гэтага месяца ў **Лёндане** адбудзецца паседжаньне саюзу „Прыяцялёў Лігі Народаў“, на якім мае быць выбрана заўсёдная камісія па справах нацыянальных меншасьцяў з заўсёднаю сядзібаю ў Жэнэве.

З **Масквы** надыйшла вестка, што радавы ўрад адклікаў свайго прадстаўніка ў Бэрліне Крэсьцінскага, дзеля таго, што ён заявіў аб сваім выхадзе з камуністычнае партыі.

Колегія камісарыяту народнае прасьветы пастанавіла ў пачатку 1925—1926 школьнага году аканчальна зьліквідаваць унівэрсытэт у **Смаленску,** таму што губэрскі выканаўчы камітэт адмовіўся ўзяць на сябе 80 проц. расходаў па утрыманьню унівэрсытэту.

ПАТ перадае з **Бэрліну,** што бюро Вольфа пярэчыць паведамленьню аг. Гаваса, нібыто **Нямеччына** хацела прасіць аб прыняцьці яе ў **Лігу Народаў,** не стаўляючы ніякіх варункаў.

„Chicago Tribune“ паведамляе з **Ангоры (Турцыя),** што на граніцы **Мосулю** сконцэнтрована 78.000 салдатаў. Францускія чугункі ў **Сырыі** перавозяць зброю і амуніцыю. Прыпушчаюць, што Турцыя, падтрыманая з боку СССР, ня пры́ме нявыгаднага для яе рашэньня аб Мосуле і разам з вагабітамі пайдзе на Ірак.

З Бэрліну тэлеграфуюць, што 23 сакавіка па ўсёй **Нямеччыне** адбыліся мітынгі і сходы для агітацыі перад выбарамі прэзыдэнта рэспублікі. Парадак нідзе не парушаўся. У Эльбэрфэльдзе адмірал Тірпіц сказаў прамову, агітуючы за кандыдатуру Яраса.

У **Лёндане** выпушчана афіцыяльнае паведамленьне, што, нязгодна з пашыранымі чуткамі, апошнія перагаворы датычна пытаньня аб бясьпецы не далі аканчальных рэзультатаў, а выясьнілі толькі пазыцыі асобных урадаў у гэтым пытаньні. Дзеля гэтага нявартa прыдаваць асаблівага значэньня конфэрэнцыі Чэмбэрлена з францускім і нямецкім пасламі, як і спадзявацца, што Чэмбэрлен у парлямэнце будзе даваць якія-нібудзь новыя тлумачэньні.

З **Масквы** паведамляюць, што 18 сакавіка там зроблены замах на намесьніка народнага камісара вайсковых справаў Уншліхта, які непашкоджаны. Замахоўцы арыштованы.

22 сакавіка ў **Маскве** адбылося ўрачыстае пахаваньне аднаго з дыктатараў **СССР** Нарыманава. Прысутнымі былі прадстаўнікі ўраду, дыплёматычнага корпусу, дэлегацыі вайсковых аддзелаў і студэнты ўсходніх унівэрсытэтаў у нацыянальных вопратках. На Чырвоным Пляцы гаварылі прамовы Калінін, Каменеў і ад францускіх камуністых Сэмар. Труну нясьлі: Дзяржынскі, Калінін, Енукідзе і Скрыпнік. Па ўсёй дзяржаве падчас пахаваньня даваліся артылерыйскія сальвы.

Быўшы **амэрыканскі** пасол у Канстантынопалі Оскар Штраус перадаў сваю бібліятэку ў ліку 5000 томаў ерусалімскаму унівэрсытэту ў **Палестыне.** Адначасна ён ахвяраваў гэтаму унівэрсытэту 5000 даляраў.

Выканаўчы камітэт **палестынскіх арабаў** пастанавіў зрабіць у дзень прыезду ў Палестыну ангельскага лёрда Бальфура агульную забастоўку і зьвярнуцца да насяленьня з адозвай падчас прабываньня Бальфура ў Палестыне насіць жалобныя вопраткі і вывесіць на хатах жалобныя чорныя сьцягі.

# Агляд прэсы.

У зьвязку з заснаваньнем Камітэту для справаў усходніх ваяводзтваў „Kurjer Poranny“ піша:

> Ад чаго распачаць працу аздараўленьня крэсаў? Вось пытаньне, над якім павінны задумацца і ўрадовыя сфэры, і Сойм, і грамадзкая думка. Што на крэсах дрэнна і навет вельмі дрэнна, аб гэтым ведаем цяпер ужо ўсе, але што зрабіць, каб было ляпей?
>
> На гэтае пытаньне мы чуем розныя адказы.

Разгледзеўшы ўсе гэтыя адказы, „Kurj. Por.“ робіць свой вывад:

> Усе гэтыя адказы ня кратаюць аднак справы самай важнай. Ведама, патрэбна й добрая адміністрацыя, і разумная нацыянальная палітыка, і зямельная рэформа, і эканамічная дапамога насяленьню, але гэта ўсё ўсмокчацца і бязьсьледна счэзьне ў той дрыгве, якой цяпер зьяўляецца крэсовае жыцьцё, пазбаўленае цьвёрдай апоры закону. Няма законнасьці — гэта ёсьць галоўная крыніца ўсіх крэсовых балячак, і бяз гэтага ніякія лекі не памогуць...
>
> Крэсовае жыцьцё ня толькі ня ведае закону і законнасьці, але зусім пазбаўлена тых карэньняў, без якіх ня можа істнаваць грамадзянства. Нашы Крэсы—гэта сумны абраз бясправ'я, гэта „дзікае поле“ бясправ'я. Жыцьцё тут ня толькі страшнае дзеля таго, што ёсьць бандыты, але дзеля таго, што жыхар крэсаў не адчувае ніколі над сабой апекі закону, але заўсёды адчувае сваю залежнасьць ад злой або добрай волі найбліжэйшага прадстаўніка ўлады — і дзеля гэтага ня чуецца грамадзянінам дзяржавы і сам ня мае пашаны да закону.
>
> Тыя, хто мае знаёмствы і пратэкцыю выняткова могуць быць пэўны, што іх бяз дай прычыны не арыштуюць або не спазнаюць ад улады іншых прыкрасьцяў, а калі трэба могуць спадзявацца падмогі і апекі гэтае ўлады. Але вялізная большасьць насяленьня, ўсё няпольскае насяленьне крэсаў, якога ёсьць 85%, зусім ня мае той пэўнасьці свайго лёсу, якую дае законная дзяржава. Да гэтага насяленьня ўлада адносіцца з падазрэньнем, як да благанастроенага да Польскай Дзяржавы, і само яно ня мае да ўлады ніякага даверыя, бо бачыць у ёй ворага, ад якога можна спадзявацца толькі прыкрасьці...
>
> Дык вось-жа аздараўленьне крэсаў павінна пачацца ад радыкаль-

русі», створанай уладарамі маскоўскага Крэмля дзеля чыста палітычных мэтаў бальшавіцка-расейскай дыплёматыі.

Бальшавікі хітра скарысталіся фактам праклямаваньня незалежнасьці Беларусі, хаця чэсьць гэтага праклямаваньня належыць ня ім, а дэмакратычнай беларускай інтэлігэнцыі, якая сілілася павясьці з бальшавікамі рашучую барацьбу за самастойнасьць свае бацькаўшчыны, распаліўшы агонь нацыянальнага пачуцьця ў масах і выставіўшы гэтым масам вышэйшы ідэал нацыянальнага быту.

Нажаль, у Польшчы мала хто ведае, што аб незалежнасьці Беларусі першымі загаварылі ў кожным выпадку не бальшавікі, хоць праўда досіць радыкальныя рады беларускай інтэлігэнцыі, выйшаўшай у сваёй большасьці непасрэдна з гушчару свайго сялянскага народу.

Даволі будзе спомніць што восем гадоў назад закіненыя фронтам сусьветнае вайны ў Менск бальшавікі, якія захапілі ўладу ў кастрычніку (лістападзе) 1917 году ўва ўсходняй Беларусі і над расейскім Заходнім фронтам, не спаміналі аж да свайго павароту ў Менск пасьля нямецкай окупацыі навет і самога імя Беларусі, і тады бальшавіцкі менскі ўрад на чале з латышом Ляндэрам называўся проста «Совет Народных Комиссаров Западной Области и Фронта».

І толькі пасьля новае свае навалы на Менск, заняты па пятах адходзіўшых да дому немцаў 9 сьнежня 1918 году, бальшавікі прыехалі з Смаленску з гатовым для Беларусі «Часовым Рэвалюцыйным Урадам», абвясьціўшым у маніфэсьце 1 студня 1919 году «Советскую Белоруссию» ў вельмі туманных і асьцярожных фразах ды паставіўшы гэтым самым маніфэстам «вонках закону» большасьць беларускае інтэлігэнцыі, якая амаль на год раней за бальшавікоў абвясьціла 25. III. 1918 году незалежную Беларускую *Народную* Рэспубліку.

Ніякага нацыянальнага зьместу бальшавіцкая «беларуская» рэспубліка 1919 году ня мела і з сталіцаю яе—Менскам—ім прышлося паўторна расстацца 8 жніўня таго-ж самага году пасьля адступленьня перад польскім войскам, прагнаўшым бальшавікоў аж за Беразіну.

Толькі вярнуўшыся ў Менск у дзесятых чыслах ліпня месяца 1920 году бальшавікі здубальтавалі абвяшчэньне «незалежнай» Беларусі ў складзе 6-х паветаў быўшае Менскае губэрні (пасьля пашыранай), даўшы магчымасьць пэўнае культурнае беларускае працы ў духу бальшавіцкага кірунку культуры.

Гэткім чынам беларускі, абвешчаны сем гадоў назад, нацыянальны ідэал застаецца ў сутнасьці толькі ідэалам.

Культурныя беларускія цэннасьці, створаныя і робленыя на ўсходзе пад уладай бальшавікоў, могуць быць узяты пад увагу гісторыяй нашага народу толькі ў некаторай сваёй частцы, бо самая невялікая рэакцыя пасьля рэвалюцыі, ці проста кажучы новы маскоўскі гаспадар у рэспубліканскім фраку ці ў мундзеры монарха можа спыніць ход беларускага культурнага разьвіцьця на Усходзе, шляхам прасьледаваньня беларускіх культурных сіл, якія актыўна цяпер там працуюць на культурным полі. А таму што найбольшая актыўнасьць гэтых сіл магчыма на Усходзе пры варунку прыняцьця імі камуністычнае партыйнасьці, дык яны ў пэўнай меры зьвязалі ўжо свой лёс з будучым лёсам усяго бальшавізму, які ня можа быць вечным, як зьявішча рэвалюцыйнага характару.

Дзеля асягненьня свайго нацыянальнага ідэалу ў невядомы час будучыны беларускаму народу трэба прайсьці цярністы шлях культурна-нацыянальнае творчасьці і, пры нармальных варунках польскіх конституцыйных гарантыяў, вечна трывалыя беларускія культурныя цэннасьці могуць быць выкаваны ў межах Польскае Рэспублікі ня ў прыклад бальшавіцкаму экспэрымэнтатарству на Усходзе.

**Менчанін.**

най перамены тых страшэнных адносін, якія наладзіліся між уладай і крэсовым насяленьнем. А гэтыя адносіны толькі тады могуць зьмяніцца ў пажаданым для нас кірунку, калі крэсовае насяленьне пераканаецца, што на крэсах пануе закон аднолькавы для ўсіх грамадзян бяз розьніцы нацыянальнасьці і рэлігіі, гэтак, як аб гэтым сказана ў Канстытуцыі.

Украінцы, беларусы, расейцы і жыды павінны ведаць, што яны грамадзяне ня 2-ой катэгорыі, але маюць таксама, як і палякі, апеку закону. Тады толькі зьнікнуць у мясцовага няпольскага насяленьня варожыя да польскасьці настроі, якія не зьяўляюцца рэзультатам толькі антыпольскай агітацыі, як некаторыя наіўна думаюць, заплюшчаючы вочы перад сумнай праўдай.

Артыкул канчаецца саўсім зразумелым пажаданьнем:

Няхай закон на Крэсах запануе.

# У С.С.Р.Р.

## Як шануюцца творы старых пісьменьнікаў.

У Арле ў аднаго прыватнага гандляра выпадкова знойдзена некалькі аркушоў з рукапісаў Тургенева, ў якія крамнік завінаў прадаваныя публіцы селядцы і іншыя тавары. На сьледзтве крамнік заявіў, што ён, будучы на калядных сьвятах у сваім родным сяле Спаскім-Пуцілаўцы купіў ад прэзэса сельскае рады два пуды папяровага хламу за 1 руб. 50 капеек і прывёз у Арол дзеля патрэбаў свае крамкі.

## Жыдоўская колёнізацыя ў Радавай Беларусі.

Менская бальшавіцкая газ. „Młot“ за 20. III піша, што на паседжаньні камісіі зямельных справаў цэнтральнага выканаўчага камітэту Беларускае Радавае Соцыялістычнае Рэспублікі зацьверджаны плян парцэляцыі зямлі, прызначанай на мэты жыдоўскае колёнізацыі. Зямельны фонд на гэта ахапляе 10.000 дзесяцін.

У бягучым годзе мае быць пасялена на зямлі 1200 жыдоўскіх сем'яў. На выпаўненьне гэтага пляну адпушчаны крэдыт у разьмеры 140.000 рублёў. Кожная новая гаспадарка мае адтрымаць крэдытную падмогу ў суме 200 рублёў.

## Славінскі аб расколе сярод камуністых Зах. Беларусі.

У № 63 „Młot'u“ за 20. III вядомы менскі большавік Славінскі зьмясьціў вялікі артыкул пад загалоўкам „Правакацыя пад фірмай ультра-камунізму“, ў якім абгаварвае справу расколу сярод камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, што тутака распублікавала нелегальная бальшавіцкая газэтка „Бальшевик“, тлумачачы раскол тактычнымі непаразуменьнямі паміж польскаю камуністычнаю партыяю і камуністымі Заходняй Беларусі.

Славінскі піша, што аўторамі „Большевика“ зьяўляюцца тры адзінкі, якія ня маюць за сабою ніякай арганізацыі і упаважненьня на выступленьні. Яны зьяўляюцца самазванцамі і падшываюцца пад фірму цэнтральнага камітэту беларускае камуністычнае партыі. Абвешчаны імі раскол — звычайная авантура.

## Бандыцкі напад на ст. Ляхавічы.

23-га гэтага сакавіка а 21 гадзіне (9 гадзіна ўвечары) банда сілаю ў 30—40 чалавек напала на чугуначную станцыю Ляхавічы ў Баранавіцкім павеце. Бандыты прыехалі на фурманках і каля станцыі падзяліліся на дзьве групы. Адна зрабіла напад на паліцэйскі пастарунак, раззброіўшы паліцыянтаў і забраўшы зброю. Камэндант пастарунку моцна пабіты бандытамі.

Другая група ў той самы час абабрала чугуначную касу. Пасьля нападу абедзьве групы адыйшлі ў кірунку савецкае граніцы. Напад цягнуўся няпоўныя 15 мінют.

На месца нападу выехаў баранавіцкі стараста, паліцыя і прадстаўнікі К. О. Р.

Прасьледаваньне бандытаў, пакуль што, рэзультатаў не дало.

„Słowo“.

## Напад грабежнікау у Дзісеншчыне.

19 сакавіка сёл. году пяць азброеных стрэльбамі і рэвальвэрамі бандытаў зрабілі грабежніцкі напад на вяртаўшыхся з м. Глыбокага жыхароў вёскі Ганцы, Германаўскай воласьці, Дзісенскага павету Віктара Нестаровіча, Сяргея Буля і Лявона Тышкевіча, ад якіх пад пагрозаю сьмерці адабраны грошы, асабістыя дакумэнты й іншыя рэчы. Зрабіўшы напад, бандыты адыйшлі ў кірунку савецкае граніцы.

Проці камэнданта паліцэйскага пастарунку ў Германавё, які ў патрэбны час не паведаміў аб нападзе, пачата дысцыплінарнае сьледзтва.

(„Słowo“),

# ПА СЬВЕЦЕ.

## Падробнасьці гурагану ў Амэрыцы.

Паводлуг вестак з Нью-Іорку, бура пачалася а 2-й гадзіне ўдзень і цягнулася ня больш як 5 мінют, гэта знач. цераз кожную мясцовасьць на сваім шляху, пралятала ў працягу толькі 5 мін. За гэткі кароткі час былі зруйнованы цэлыя месты, дамы пераносіліся ў паветры на дзесяткі міляў. Гураган меў форму паветранае трубы, за якою паўзьлі дажджавыя хмары з нябывалаю навальніцаю, якая цягнулася цэлую ноч як-бы з абарванае хмары. Адначасна тэмпэратура ўпала да 2 градусаў ніжэй за ноль. Гэтая катастрофа была самаю страшнаю пасьля землятрасеньня ў Сан-Францыско. Афіцыяльна установлена, што лік забітых і раненых дасягае 60.000 чалавек. Бураю зьнішчана ў штатах Індыяне, Місуры і Ілінойсе 18 вялікіх местаў і 20 мястэчак. Матар'яльная шкода аблічваецца ў 30 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў (1 фунт штэрл. — каля 27 злотых польскіх). Гураган зруйнаваў вадаправоды і гэта перашкаджала тушыць пажары. Ен быў саўсім неспадзяваны, таму што ў гэтую пару году ніколі ня бывае сільных вятроў. Падобны цыклён ў гэтых мясцовасьцях бывае кожны год, але ніколі ён не рабіў гэткае шкоды. Найстрашнейшы дасюль гураган быў тамака ў 1896 годзе, калі загінула 306 чалавек, а матар'яльная шкода аблічвалася ў 12 мільёнаў даляраў.

# Жыцьцё провінцыі.

Нам пішуць з Новага Пагосту:

„У „Грамадзкім Голасе“ ўжо пісалася, што Архіепіскап Хвядос ня лічыцца з інтарэсамі беларусаў пры назначэньні розных асобаў на пасады па яго епархіі.

Вось-жа з Новага Пагосту выдалены сьвяшчэньнік нашае царквы айцец Уладымер Сіняўскі, беларус, праслужыўшы ў нас 19 гадоў. Прыхаджане (каля 4-х тысяч душ), таксама ўсе беларусы, тры разы падавалі прашэньне Архіепіскапу Хвядосу аб тым, каб пакінуў а. Сіняўскага ў іх, як паважанага і любага ім пастыра, але Архіепіскап Хвядос прыслаў да нас, замест беларуса, сьвяшчэньніка з Валыні а. Аляксандра Відэбіду—сваяка, як кажуць, архімандрыта віленскага Палікарпа.

Калі ў нядзелю 8. III. а. Відэбіда прачытаў указ у царкве аб звальненьні сьвяшчэньніка У. Сіняўскага, дык пачаўся плач і стагната, а таксама бурныя крыкі па адрэсе а. Відэбіды: „Ідзі сам вон! А Сіняўскага, які жыў з намі 19 гадоў, ня пусьцім!“

Чым гэта скончылася-б—невядома, калі-б хор сьпевакоў на просьбе а. Відэбіды голасна засьпяваў.

Тут-жа прыхаджане пастанавілі пісаць скаргу да Сьвятарнага Сыноду аб звароце ім а. Сіняўскага. У гэты час вялікі дубовы кіот з абразамі Мікалая Цудатворцы і Сарафіна Сароўскага ад невядомае прычыны ўпаў на падлогу і скалечыў Ксеню Валіцкую. Народ кажа, што сьвятыя таксама ня хочуць, каб у нас служыў а. Відэбіда.

Запамінае Архіепіскап Хвядос, што не для яго існуе беларускі народ, а Ен для беларускага народу“.

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **У Час. Бел. Радзе**. На паседжаньні Прэзыдыуму Часовае Беларускае Рады пастаноўлена прытарпаваць сьвяткаваньне 400-х угодкаў беларускага друку ў Вільні, закладзенага Францішкам Скарынаю — першым беларускім друкаром, к часу адчыненьня настаўніцкіх курсаў.

= **Безрабоцьце.** За мінулы тыдзень безработным выплачана 850 злотых падмогі. 7-га красавіка на работы ў Францыю выяжджаюць з Вільні 180 безработных.

= **Правапіс для вураднікаў.** Дырэкцыя Пошты й Тэлеграфу ў Вільні, з мэтай аднолькавасьці польскага правапісу ў службовай корэспондэнцыі, загадала ўсім падуладным сабе установам набыць прапанованы Радаю Міністраў падручнік польскага правапісу Рыгера.

= **Варункі эміграцыі ў Канаду.** Эміграцыйная установа пры Міністэрстве Працы 12 гэт. мес. паведаміла Дэлегатуру Ураду, што на моцы правілаў, выданых уладамі Канадзкага Дэпартамэнту Колёнізацыі, сваякі і знаёмыя эмігрантаў, якія пражываюць у Канадзе, могуць старацца аб пазваленьні выезду туды, але з варункам, што запэўняць эмігранту працу і утрыманьне і дакажуць, што прыезд эмігранта зьяўляецца пажаданым.

= **Адміністрацыйныя кары**. Камісарыят Ураду на м. Вільню ў студні месяцы сёлетняга году пацягнуў да адпавядальнасьці і адміністрацыйна пакараў 1381 асобу на агульную суму 15.000 злотых. З гэтага ліку за алькогольныя надужыцьці аштрафованы 223 асобы на 5065 злот., за спэкуляцыю адміністрацыйна пакарана 118 асобаў, за нарушэньне правіл руху 211, за ўхіленьне ад кантролю 11 жанчын, за нерэестрацыю 30 асоб, за ўладаньне зброяй без пазваленьня 9 і за нарушэньне санітарных правіл 453 асобы.

У лютым месяцы, пацягнена да адміністацыйнай адпавядальнасьці каля 1250 асобаў.

= **Цыркуляр аб загранічных пашпартох.** Міністэрствам Унутраных Справаў выданы цыркуляр аб больш асьцярожнай выдачы ільготных пашпартоў з прычыны паменшаньня аплаты за гэтыя пашпарты з 500 да 100 злотых. Выдаваць заграмічныя пашпарты можна толькі ў тым выпадку калі той, хто выяжджае за граніцу, нэ падпадае ні пад якую няпэўнасьць. Пры гэтым у цыркуляры сказана, што ў выпадку адмовы ў выдачы ільготнага пашпарту нельга мотываваць адмовы заможнасьцю таго, хто выяжджае за граніцу, за выняткам тых асобаў, якія выяжджаюць лячыцца.

= **Рэкруты 1904 году**. Закончана рэестрацыя прызыўных па Віленска - Троцкім павеце, якія нарадзіліся ў 1904 г.

= **Экзамены для чугуншчыкаў.** Міністэрства чугунак у бягучым годзе зробяць экзамены для чугуншчыкаў, якія служаць на лініі. Мэта экзаменаў — спраўджаньне практычнае веды чугуншчыкаў.

# УСЯЧЫНА.

## Арыгінальнае лякарства для п'яніц.

Ангельская газэта „Daily Herald“ піша аб вельмі цікавай навіне: *людзей, якія часта любяць мець справу з чаркаю можна лячыць, выстаўляючы іх на пакусаньне пчоламі.*

— „Гэта ані ня жарт,—піша „Daily Herald“, — і не чартоўская выдумка, якая была-б караю для п'яніц, але справа йдзе аб правільнае лячэньне, каб вызваліць чалавецтва ад алькоголізму“.

Ужо даўно даказана, што атрута, ўведзеная ў кроў пры пакусаньні пчоламі, зьяўляецца дасканальным лякарствам ад рэўматызму і артрэтычных недамаганьняў. Няраз здаралася, што людзі, хворыя гэтымі хваробамі, былі саўсім вылечаны. Цяпер Амэрыка пачала рабіць у гэтым кірунку спробы і шмат п'яніц было аддана на пакусаньне пчоламі. Дактары са зьдзіўленьнем устанавілі, што лечаныя гэткім спосабам п'яніцы адразу пачувалі страшэнную агіду да алькоголю.

Рэдактар-Выдавец Язэп Салавей

Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф № 203.